


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")**
**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**
**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.**

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 42 (272) — Нядзеля 16 кастрычніка 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Пленарная сэсія ЗН бяз Францыі

На цяперашняй пленарнай сэсіі Задзіночаных Нацыяў у Нью Ёрку 30 верасьня меў месца наступны інцыдэнт. Сэсія бальшынёю толькі аднаго голасу 28 галасамі супраць 27 і пры 5, што ўстрымаліся, пастанавіла паставіць на парадку дня сэсіі справу Альжыру ня гледзячы на тое, што галоўная камісія ЗН была супраць дэбатаў над Альжырам. За абгаварваньнем справы Альжыру галасаваў Савецкі Саюз із сваімі сатэлітамі, азіяцкія й арабскія краіны, некалькі краінаў Паўдзённай Амэрыкі, спасярод эўрапэйскіх краінаў Грэцыя і Югаславія, а Ісьляндыя ўстрымалася ад галасаваньня.

Гэтая пастанова да глыбіні абурыла францускую дэлегацыю, якая дэманстрацыйна пакінула пленарную сэсію й выляцела ў Парыж. Ходзіць пра тое, што Альжыр ад 1834 году ня ёсьць францускай калёніяй, але інтэгральнай часьцю Францыі, у нутраныя справы якой Задзіночаныя Нацыі на падставе сваей карты ня маюць права ўмешвацца. Францыя заявіла, што яна будзе байкатаваць ня толькі дэбаты ў справе Альжыру, але і ўсю цяперашнюю сэсію ЗН. Аднак і на гэты час яе прадстаўнікі астаюцца й надалей у такіх важных ворганах ЗН, як Рада Бясьпечнасьці і камісія ў справе разбраеньняў. У сувязі з тым, што ў альжырскай справе супраць Францыі галасаваў Савецкі Саюз, францускі ўрад адклікаў паездку сваіх прадстаўнікоў у Маскву, якая мела адбыцца 17 кастрычніка сёлета.

Гэты, здавалася-б, сам у сабе не такі ўжо нязвычайны інцыдэнт, мае аднак глыбокую палітычную вымову, калі яго разглядаць на фоне ўсей міжнароднай палітыкі.

Перадусім, гэта першы ў дзесяцігадовай гісторыі Задзіночаных Нацыяў выпадак, калі Амэрыка разам із сваімі найбліжэйшымі саюзьнікамі была перагаласаваная толькі адным голасам, і гэта сталася зусім прыпадкова, бо Грэцыя галасавала супраць толькі ў вадплату Францыі, якая раней галасавала супраць дыскусіі над справай Цыпру. Але вымоўным ёсьць тое, што Грэцыя й Ісьляндыя, якая ад голасу ўстрымалася, ёсьць сябрамі Атлянтычнага пакту, а свае галасы аддалі фактычна Саветам супраць іншага сябры Атлянтычнага пакту. Гэта ня вельмі прыемны прэцэдэнс на будучыню.

Падругое, інцыдэнт з Францыяй можа мець аднак той добры вынік што ён магчыма трохі астудзіць на Захадзе, а перадусім, у самой Францыі коэгзыстэнцыяльныя захапленьні. Заходняя, а перадусім француская прэса не хавае цяпер свайго войстрага абурэньня супраць Савецкага Саюзу, паказваючы на ягоныя кракадзілавыя сьлёзы над народамі Афрыкі ў той час, калі сам трымае ў стане бяспрыкладнага нявольніцтва дзесяткі іншых народаў. Трэба адцеміць, што яшчэ бадай ніколі не падымаліся такія войстрыя й с таноўчыя галасы супраць Савецкага Саюзу й ягонай ньвольніцкай сыстэмы, як апошнімі днямі ў францускай прэсе і ў прэсе іншых заходніх краінаў. Прыкладам, ангельскі лібэральны ворган «Манчэстэр Гардыян» з увагі на тое, што самазваныя узурпатары паняволенага беларускага народу галасавалі ў ЗН у «вабароне свабоды» Альжыру, зьядліва пісаў, **што «ёсьць балючым для Францыі атрымліваць ад Беларусі лекцыі аб свабодзе».**

Але найбольш важным ёсьць яшчэ адзін аспэкт гэтае справы. Савецкі Саюз заўсёды выступае ў хвальшывай ролі апякуна й абаронньніка паняволеных каляніяльных народаў Азіі й Афрыкі і мае ў гэтым вялізарныя посьпехі. На колькі Крэмль дацэньвае гэтае сваё аружжа ў змаганьні супраць вольнага сьвету, найлепей сьветчыць апошні выпадак з галасаваньнем у справе Альжыру. Бальшавікі добра здавалі сабе справу, што гэтым сваім паступкам нарушаць так ім патрэбную коэгзыстэнцыйную гармонію, аднак не праміnулі нагоды, каб не зайграць на патрыятычных пачуцьцях і нацыянальна-вызвольных імкненьнях народаў Афрыкі. Гэтая ігра ім заўсёды аплачвалася і, пэўне-ж, аплаціцца і цяпер ды пакрые зь вялікім працэнтам усе шкоды, гэтай ігрой выкліканыя на іншых фронтах.

Спэцыяльна акцэнтуем гэты аспэкт справы, каб лішні ваз паказаць каротказорую палітыку Захаду, які, атрымліваючы балючыя ўдары ад бальшавікоў на фроньце нацыянальна-вызвольнае палітыкі, ня толькі ня хоча адказаць ім тым самым, але пакідае вылучны на яго манаполь Маскве. Можа гэты апошні інцыдэнт з Францыяй хутчэй ацьвярозіць заходніх палітыкаў і прывядзе іх да зразуменьня вельмі простае рэчы, што найвайстрэйшым іхным аружжам у змаганьні з маскоўскім камунізмам ёсьць адпаведнае падтрыманьне й выкарыстаньне нацыянальна-вызвольных імкненьняў паняволеных Масквой народаў.

**А. К.**

# НАСТУП НА АМЭРЫКАНСКІЯ БАЗЫ

Асноўным стрыжнём савецкіх стратэгічных плянаў ёсьць ліквідацыя Атлянтычнага абароннага пакту й амэрыканскіх лётніцкіх базаў у Эўропе, Афрыцы й Азіі. Гэта, як сьцьвярджаюць заходнія ваенныя экспэрты, дало-б Саветам станоўчую мілітарную перавагу над Захадам. А гэта і мае на мэце фарсаваны Саветамі пакт узаемнае бясьпечнасьці, які знойдзецца на парадку дня Жэнэўскай конфэрэнцыі міністраў замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі й Савецкага Саюзу, што распачнецца 27 кастрычніка сёлета.

Каб здабыць выгодную пазыцыю для гэтых дамаганьяў і прыхільна настроіць да сябе публічную апінію Захаду, Саветы зрабілі нядаўна некаторыя канкрэтныя ходы. Пайменна, 19 верасьня сёлета між Булганінам і прэм'ер-міністрам Фінляндыі Паасківі было падпісанае ў Маскве пагадненьне аб прадаўжэньні на далейшых 20 год савецка-фінскага пакту прыязьні і аб звароце, у рамах гэтага пагадненьня, Фінляндыі ваеннай базы Порккаля, якую ў 1944 годзе «пазычыла» Масква на 50 год ад прыцісьнутай да муру Фінляндыі. З гэтага факту зрабіла Масква прэцэдэнс, каб дамагацца таго самага і ад Амэрыкі, ваенныя базы якой шчыльным абручом апяразваюць Савецкі Саюз і ягоных эўрапэйскіх і азіяцкіх сатэлітаў. Молатаў у сваей прамове на адкрыцьці цяперашняй сэсіі Задзіночаных Нацыяў адкрыта заявіў, што ў той час, калі Савецкі Саюз, аддаўшы Порт Артур і Порккаля, ня мае на чужой тэрыторыі сваіх ваенных базаў, Амэрыка ня толькі іх удзержывае, але й разбудоўвае далей. Падобныя асьветчаньні зрабілі Булганін і Хрушчоў, аб гэтым бесьперапынку піша савецкая прэса, цьвердзячы, што амэрыканскія заморскія базы зьяўляюцца істотнай прычынай міжнароднага напружаньня. Гэта ўсё зьяўляецца толькі прэлюдыяй да Жэнэўскай конфэрэнцыі, на якой гэтая справа будзе Саветамі пастаўленая ў ува ўсей вайстрыні.

Прыгледзьмася цяпер, у чым палягае ўся сутнасьць справы.

Зварот Фінляндыі ваеннай базы Порккаля не зьяўляецца ніякай уступкай з савецкага боку, калі ўзяць пад увагу, што некалькі дзесяткаў кілямэтраў далей мае Савецкі Саюз дастаткова добра разбудаваных ваенных базаў на сваей собскай тэрыторыі. А ў век радару, міжкантынэнтальнага лётніцтва і атамна-вадароднае бомбы адлегласьць, якая вымяраецца дзесяткамі кілямэтраў, ня мае ніякага практычнага значаньня. Пры гэтым ведама, што адзінай перашкодай, якая паўстрымоўвае Савецкі Саюз ад генэральнай расправы з заходнім сьветам, гэта мілітарная перавага Захаду, у першую чаргу Амэрыкі. Пасьля выпрадукаваньня Саветамі атамнай і вадароднай бомбы, далёкасяжнага лётніцтва й міжкантынэнтальных ракетных стрыльнаў, амэрыканская мілітарная перавага над Саветамі непамерна зьменшылася й зьмяншаецца далей на карысьць Саветаў. Яна сяньня ўтрымоўваецца фактычна толькі дзякуючы амэрыканскім заморскім базам. Дастатксва гэтыя базы зьліквідаваць, каб ваенная перавага аказалася на баку Саветаў. А тады . . .

Галоўнай асновай стратэгічнага лётніцтва Амэрыкі ёсьць 1.500 дызэльных бамбавікоў тыпу Б-47 сярэдняга засягу. Гэтыя бамбавікі могуць дасягнуць амаль усіх аб'ектаў на савецкай тэрыторыі з амэрыканскіх базаў пад умовай, што яны будуць двукратна напаўняцца бэнзінай у паветры. Але колькасьць самалётаў-цыстэрнаў у Амэрыкі для напаўняньня гэтых бамбавікоў далёка недастатковая. Вось чаму такое вырашальнае значаньне маюць для Амэрыкі й цэлага Захаду амэрыканскія базы. Бяз гэтых базаў колькасьць баёвых палётаў амэрыканскага лётніцтва зьменшылася-б на 70%, іншымі словамі, сіла амэрыканскага стратэгічнага лётніцтва зьменшылася-б больш чымся на дзьве трэйція.

Недарэчным ёсьць цьверджаньне Масквы, што, аддаючы Фінляндыі Порккаля, яна зраклася сваей апошняй базы на чужой тэрыторыі. Наадварот, яна цэлы рад краінаў Эўропы й Азіі замяніла на свае ваенныя базы. Гэта ўсе савецкія сатэліты сярэдня-усходняй Эўропы, а таксама чырвоны Кітай, Паўночная Карэя і паўночны Ветнам. Калі-б Масква згадзілася выйсьці з усіх краінаў і прывярнуць ім поўную свабоду, тады й Амэрыка не ўважала-б за патрэбнае трымаць сваіх ваенных базаў на тэрыторыі прыязных ёй дзяржаваў.

**(-іч)**

# *Ад Рэдакцыі «Бацькаўшчыны»*

У гады бяспрыкладнага паняволеньня беларускага народу й безагляднага ніішчэньня ягоных нацыянальных патэнцыяў адно толькі эміграцыя, што апынулася ў розных краінах вольнага сьвету, мае магчымасьць свабодна разьвіваць тварчую працу й ствараць нацыянальныя вартасьці. Яна адна захоўвае й прадаўжае цягласьць вольнага разьвіцьця й росту беларускай нацыянальнай культуры, нацыянальнай ня толькі паводля формы, але й зьместу. У сілу свайго такога палажэньня, сяньняшняя беларуская эміграцыя пакліканая адыгрываць вялікую й адказную гістарычную ролю і яна яе, у меру сваіх сілаў і магчымасьцяў, годна выконвае. Таму ад будучага гісторыка не павінна затаіцца ніводная, навет найсьціплейшая нацыянальная акцыя нашай эміграцыі, ніводзін выпадак у ейным жыцьці, які мог-бы аказацца цэнным для гісторыі беларускага эміграцыйнага руху.

Дзеля гэтага зьвяртаемся да ўсіх беларускіх эміграцыйных арганізацыяў, ня гледзячы на іхны палітычны кірунак, да ўсіх беларускіх асяродзьдзяў і паасобных адзінак прысылаць сыстэматычна ў «Бацькаўшчыну» карэспандэнцыі аб усей іхнай дзейнасьці, аб найдрабнейшых навет фактах і выпадках зь іхнага арганізацыйнага жыцьця.

Але каб такія карэспандэнцыі мелі поўную вартасьць як для інфармацыі іншых аб бягучым актуальным жыцьці, гэтак і для гістарычнай дакумэнтацыі, яны мусяць быць **сваечасовыя, дакладныя й аб'ектыўныя.**

Нярэдка здараліся выпадкі, што некаторыя аўтары карэспандэнцыяў, кіруючыся асабістымі сымпатыямі ці антыпатыямі, разьміналіся з аб'ектыўнай праўдай і асьвятлялі жыцьцё й працу дадзеных арганізацыяў, асяродзьдзяў і людзей груба тэндэнцыйна, прыносячы гэтым, замест цэннай інфармацыі, шкодную дэзінфармацыю. Рэдакцыя, ня могучы такіх фактаў на месцы праверыць, станавілася супраць сваей волі й жаданьняў, таксама ахвяраю дэзінфармацыі. Таму, заклікаючы тут нашых чытачоў і супрацоўнікаў, да прысыланьня карэспандэнцыяў у газэту аб усіх праявах нашага нацыянальнага жыцьця й дзейнасьці, мы горача да іх апэлюем: у імя агульнае карысьці пісаць толькі аб'ектыўную праўду!

Апрача прыпадковых карэспандэнтаў, было-б пажаданым, каб кажная беларуская арганізацыя мела і сваіх сталых карэспандэнтаў, абавязкам якіх было стала інфармаваць Рэдакцыю аб жыцьці дадзенай арганізацыі ці асяродзьдзя і несьці перад апошнімі грамадзкую адказнасьць за сваячасовасьць, праўдзівасьць і дакладнасьць інфармацыі.

Апрача інфармацыяў аб жыцьці й дзейнасьці самой эміграцыі, асаблівую цэннасьць маюць таксама інфармацыі аб розных выказваньнях і выступленьнях палітыкаў і журналістых розных краінаў Захаду ў справах, якія маюць беспасрэднае або хоць пасярэднае да Беларусі і нашай нацыянальнай праблемы. Такія высказваньні й выступленьні асабліва часта маюць месца ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, і нашая Рэдакцыя нярэдка змушаная пісаць спозьнена аб гэтым на падставе паведамленьняў чужой прэсы, а нярэдка й зусім не адзначаць такіх, важных інфармацыі, фактаў, бо нашыя суродзічы не ўважаюць за патрэбнае паінфармаваць нас сваечасова аб гэтым. Дык нашая наступная просьба: безадкладна пісаць нам аб такіх фактах, каб мы маглі дзяліцца імі з усей нашай эміграцыяй і трымаць яе ў курсе найважнейшых справаў, якія нас датычаць.

Некаторыя нашыя супрацоўнікі часамі зьнеахвочваюцца пісаць у газэту пасьля таго, калі адзін-другі прысланы імі артыкул ня быў надрукаваны ў газэце. Вось-жа такіх выпадкаў, — а яны былі і, думаем, будуць — просім не ўважаць ані за непашану да аўтара, ані за дыскваліфікацыю яго. Нашая газэта, наўсуперак розным злосным нападам, ня ёсьць ані партыйным, ані вузка груповым ворганам і ахвотна зьмешчае навет артыкулы, з думкамі якіх Рэдакцыя не згаджаецца. Але незалежна ад гэтага, «Бацькаўшчына», як і кажная газэта, што мае свой палітычны твар і ідэялягічныя прынцыпы, часамі ня можа зьмяшчаць тых артыкулаў, якія тактычна не зьяўляюцца ў дадзены мамэнт і ў дадзеных абставінах карыснымі. Часамі прысланы артыкул бывае добра напісаны, падае праўдзівыя факты й робіць правільныя вывады, але ў дадзенай палітычнай сытуацыі ён у тым ці іншым сэнсе можа аказацца для беларускай справы некарысным. У такіх выпадках ён зьмешчаны быць ня можа. Таму тых нашых супрацоўнікаў, ня ўсе артыкулы каторых часамі паяўляюцца ў «Бацькаўшчыне», просім мець зразуменьне, што Рэдакцыя яго не зьмясьціла ня із злой волі.

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Справа радыяперадачаў за зялезную заслону

Молатаў у дыскусіі з канцлерам Адэнаўэрам падчас візыты апошняга ў Маскве закрануў справу прапагандовых баленаў, высыланых з тэрыторыі Заходняй Нямеччыны ў сатэлітныя краіны з прапагандовым супрацьбальшавіцкім матарыялам. Молатаў цьвердзіў, што гэтыя балёны далятаюць навет да тэрыторыі Савецкага Саюзу і зьяўляюцца небясьпечнымі для лётніцкай камунікацыі.

Ніхто не паверыць, каб Молатаў быў такім наіўным і ўважаў, што гэтыя балёны маглі-б быць узапраўды небясьпечнымі для савецкіх самалётаў, каб гэтае пытаньне высоўваць на парадак дня перагавораў з прадстаўнікам чужой дзяржавы. На Захадзе ўважаюць, што закранутая Молатавам справа была «пробным балёнам» і мела на мэце прыгатаваць грунт для пытаньня куды шырэйшага й важнейшага. Як мы ўжо пісалі, у заходняй прэсе паявіліся зусім сур'ёзныя здагадкі, што на Жэнэўскай канфэрэнцыі міністраў замежных справаў чатырох вялікадзяржаваў, якая распачнецца 27 кастрычніка сёлета, Масква будзе дамагацца спыненьня заходніх радыяперадачаў за зялезную заслону ў мовах народаў Савецкага Саюзу і сатэлітных краінаў (ББС, «Голас Амэрыкі», «Вольная Зўропа», «Вызваленьне» і інш.), у замен за што адмовілася-б ад собскіх радыяперадачаў ў мовах Захаду й накіраваных на Захад.

Трэба думаць, што здагадкі заходняе прэсы зьяўляюцца вельмі праўдападобныя. Аб гэтым можа, сьветчыць і тое, што апошнім часам савецкая прэса асабліва ўзмоцніла напады супраць радыяперадачаў, што йдуць з Захаду за зялезную заслону.

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

## Заходня-нямецкага Міністэрства для спраў уцекачоў

Фэдэральнае Міністэрства для выгнаных, уцекачоў і ваеннапацярпелых паведамляе:

«На аснове паўсталых у кругох безьдзяржаўных чужынцаў турботаў адносна іхнага павароту на бацькаўшчыну, сьцьвярджаецца:

«Права палітычнага прытулку зьяўляецца канстытуцыйнай нормай. Артыкул 16 Канстытуцыі кажа:

Палітычна перасьледаваныя карыстаюцца правам азылю.

У связі з гэтым існуе канстытуцыйная забарона выдаваць чужым краінам палітычна перасьледваных чужынцаў. Палітычна перасьледванымі прызнаюцца тыя, што адказваюць вымогам арт. 1 Жэнэўскае Ўмовы аб уцекачох з 28. 7. 1951 г.

Закон аб праўным паложаньні безьдзяржаўных чужынцаў на тэрыторыі Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі з 25. 4. 1951 забясьпечвае безьдзяржаўным чужынцам абарону супраць выдачы.

У сувязі з вышэй сказаным, чужынецкія уцекачы й безьдзяржаўныя чужынцы, што жывуць у Нямеччыне, ня маюць ніякіх падставаў турбавацца з гэтае прычыны».

**Бонн, 24. 9. 1955.**

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**У справе перавыданьня повесьці Якуба Коласа «У палескай глушы»**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны» хутка прыступіць да перавыданьня найвыдатнейшага празаічнага твору Якуба Коласа — повесьці «У палескай глушы», бяручы за аснову апошняе менскае выданьне яе. Як ведама, повесьць «У палескай глушы» першы раз была выдадзеная ў Вільні пасьля першае сьветнае вайны, і з гэтым выданьнем, якога Выдавецтва ня мае, трэба было-б параўняць тэкст апошняга выданьня менскага. У сувязі з гэтым Выдавецтва ветліва просіць тых Беларусаў, што маюць у сябе віленскае выданьне «У палескай глушы», пазычыць яго на кароткі час Выдавецтву дзеля ўспомненага параўнаньня. Кніга будзе ў поўным парадку зьвернутая собсьніку, а ў якасьці ўзнагароды за яе пазыку будуць яму высланыя тры эгзэмпляры новага выданьня повесьці пасьля яе выхаду з друку.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Справа радыяперадачаў за зялезную заслону

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Заходнія радыяперадачы за зялезную заслону прыносяць Саветам не малыя клопаты. Яны ёсьць адзіным і пры гэтым вельмі эфэктоўным спосабам прапаганды, якая пранікае за зялезную заслону і нясе паняволеным народам словы праўды й надзеі. Магчымасьць прамаўляньня палітычных эмігрантаў да сваіх суродзічаў на Ўсходзе ў іхнай роднай мове цераз заходнія радыястанцыі была хіба найважнейшай прычынай, што Саветы былі змушаныя перарваць сваё маўчаньне аб існаваньні й дзейнасьці эміграцыяў на Захадзе. Што заходнія радыястанцыі не даюць бальшавіком супакою, можа сьветчыць устанаўленьне Саветамі зь вялізарнымі коштамі каля тысячы собскіх радыястанцыяў вылучна дзеля глушэньня заходніх радыяперадачаў... Аб гэтым таксама сьветчаць многакратныя тэрарыстычныя акты супраць эмігрантаў працаўнікоў заходніх радыястанцыяў, якія перадаюць свае аўдыцыі за зялезную заслону, як і нахабнае насыланьне сваіх агентаў якраз у васяродзьдзе працаўнікоў гэтых радыястанцыяў.

Незалежна ад таго, ці пытаньне гэтых радыястанцыяў будзе бальшавікамі высунутае на Жэнэўскай канфэрэнцыі і ў якой форме, рэакцыя на такую эвэнтуальнасьць заходняй прэсы, перадусім ангельскай ёсьць вялікая, цьвярозая й разумная.

Гэтай справе прысьвяцілі шмат цікавых заўвагаў некалькі паважных ангельскіх прэсавых ворганаў. Спасярод іх «Эканаміст» 10 верасьня сёлета пісаў што справа спыненьня радыёвай вайны залежыць вылучна ад Саветаў. Газэта зацемлівае, што ніхто на Захадзе ня будзе на гэтулькі наіўным, каб манаполь радыёвых хваляў пакінуць вылучна Саветам і іхным сатэлітам. Аднак небясьпека палягае ў тым, што Саветы могуць згадзіцца спыніць свае іншамоўныя радыяперадачы, калі тое самае зробяць заходнія дяржавы. На першы пагляд можа выдавацца, што такая разьвязка была-б правільная і прынесла-б адпружаньне між Усходам і Захадам. Але «Эканаміст» разьвейвае гэтыя зманлівыя ўяўленьні.

Весткі з Захаду могуць даходзіць сяньня за зялезную заслону вылучна радыёвым шляхам. Толькі пры пасярэдніцтве радыя могуць палітычныя эміграны прамаўляць да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне, правільна іх інфармаваць, паддзержываць на духу і дэмаскаваць камуністычную ілжу.

Зусім іншыя магчымасьці маюць Саветы. Радыё для іх зьяўляецца толькі дадатковым і другарадным, калі ня трэйцярадным, сяродкам шырэньня сваей прапаганды сярод народаў Захаду. Апрача радыя, Саветы маюць шмат іншых сяродкаў прапаганды, і то куды сільнейшых і эфэктоўнейшых. У першую чаргу на іхных услугах тут знаходзяцца камуністычныя пятыя калоны, яўныя й тайныя арганізацыі, а навет фармальна некамуністычныя групы інтэлектуалістых, прафэсіянальныя саюзы, не бяручы ўжо пад увагу незалежнай прэсы, якая ня толькі правільна, але й нярэдка тэндэнцыйна інфармуе чытачоў у карысным для бальшавікоў духу. Савецкая прэса й прапагандовая літаратура кальпартуецца на Захадзе бязь ніякіх абмежаваньняў, а камуністычныя партыі заходніх краінаў закідаюць людзей прасавецкай літаратурай у іхных родных мовах.

З гэтага відаць, што калі-б Захад згадзіўся на ўзаемнае спыненьне радыёвай прапаганды, дык ён зрокся-б адзінае магчымасьці кантактаваньня з падсавецкімі народамі, тады калі для бальшавікоў такіх магчымасьцяў асталося-б шмат. Такая разьвязка ў практыцы была-б аднабокай і для Саветаў вельмі карыснай.

Праўда, існуе магчымасьць узаемнага спыненьня радыёвай вайны бязь непасрэднае шкоды для Захаду, гэта пад умовай свабоднай вымены з Саветамі думак і паглядаў, што ў практыцы дазваляе Захад бальшавіком рабіць ува ўсіх заходніх краінах бязь ніякай рэкампэнсаты для сябе. Гэтак уся савецкая прэса й літаратура ў розных мовах і бязь ніякіх абмежаваньняў кальпартуецца сяньня на Захадзе, дык і за зялезнай заслонай трэба дазволіць свабодна й без абмежаваньняў кальпартаваць прэсу й літаратуру заходнюю ў мовах народаў Савецкага Саюзу, у тым ліку й прэсу ды літаратуру эміграцыйную. Толькі ў такім выпадку радыяперадачы з Захаду за зялезную заслону сталіся-б лішнімі.

Але няма найменшых падставаў спадзявацца, каб на такую разьвязку Саветы калі-небудзь згадзіліся.

**Назіральнік**

# Крыху аб «Менскім эпізодзе 1918 г.»

У № 93-94 польскага месячніка «Культура» (Парыж) у ваддзеле «Найнавейшая гісторія Польшчы» быў зьмешчаны дапіс Міхала К. Паўлікоўскага п. н. «Менскі эпізод 1918 г.» **Тут** перадусім трэба зазначыць, што адносна гэтага аддзелу ў часапісе ёсьць наступная заўвага: «Матар'ялы, **зьмешчаныя ў гэтым** аддзеле, друкуюцца на адказнасьць аўтараў і ня выражаюць пагляду Рэдакцыі». На колькі гэтая заўвага зьяўляецца апраўданай і карыснай для такога паважнага, ці хутчэй найцаважнейшага польскага часапісу, якім зьяўляецца «Культура», мы пабачым ніжэй.

Крытыкуючы польскую гісторыяграфію за хвальшывае насьвятляньне падзеяў зьвязаных з вызвольнай барацьбой Палякаў на беларускіх землях (гэтыя землі для аўтара зьяўляюцца нічым іншым, як толькі часткай Рэчыпаспалітай), аўтар сам стараецца даць быццам праўдзівы вобраз гэтае барацьбы, ды перадусім паложаньня ў Менску на працягу колькіх дзён, што папярэдзілі прыход Немцаў сюды ў 1918 годзе. Падзеі гэтых колькіх дзён аўтар і называе «менскім эпізодам».

Ды нажаль «праўдзівасьць» сп. Паўлікоўскага часта разыходзіцца з праўдзівасьцяй. Калі-б мы дапусьцілі на момант, што няма ніякае аб'ектыўнае праўды, што ёсьць асобная праўда сп. Паўлікоўскага, як польскага патрыёты, асобная праўда Беларуса, і г. д., дык бязумоўна ня было-б чаго закінуць аўтару «менскага эпізоду». Але-ж — можна даводзіць і часамі давесьці, што чорнае ёсьць белым і наадварот, аднак ад гэтага ні чорнае не пабялее, ні белае не пачарнее.

Сп. Паўлікоўскі піша перш пра корпус Доўбара-Мусьніцкага, што стаяў у Бабруйску й ягоных ваколіцах ды пра змаганьне яго з бальшавікамі. Пры гэтым аўтар зусім правільна заўважае, што Станіслаў Мацкевіч (Цат) поўнасьцяй мыляецца ў сваёй кніжцы «Гісторыя Пальшчы», выдадзенай яшчэ ў 1941 году у Лёндане, дзе ён піша быццам-бы корпус Доўбара-Мусьніцкага пасьля **цяжкіх баёў 19 лютага 1918 г.** заняў Менск. У запраўднасьці, як піша і Паўлікоўскі, ня было ні гэтых цяжкіх баёў, ні жаўнераў корпусу ў Менску.

Далей аўтар успамінае пра польскае жыцьцё ў Менску ў пачатку 1918 г., пра ўцёкі бальшавікоў зь Менску пасьля перарваньня мірных перамоваў у Берасьці ды пра захоп улады Палякамі пасьля гэтых уцёкаў. У канцы-ж ён піша наступнае: «Асаблівай цаглінкай зьяўляецца артыкул у ваднім з польска-амэрыканскіх часапісаў, дзе менскі эпізод быў паднесены да годнасьці «паўстаньня»(!) і названы «Беларускім сьвятам» («Дзеньнік Польскі», Дэтройт, № 3 30 сакавіка 1955). Пры ўсім маім сэнтымэньце да Беларусаў і пашаны для іхных незалежніцкіх імкненьняў, мушу сьцьвердзіць, **што** ў «менскім эпізодзе» ў лютым 1918 ніякае найменшае ролі яны ня згулялі (Хіба шчо Беларусамі назавем Палякаў, якія, як і ніжэй падпісаны, ад стагодзьдзяў жылі на Белай Русі»).

Пачнем ад уцёкаў зь Менску бальшавікоў. Аўтар кажа, што дакладных датаў гэтых падзеяў не памятае, але ў іншым месцы зазначае, што пасьля ўцёкаў бальшавікоў «панаваньне наша (польскае — А. Г.) ў Менску трывала дзьве з паловай пары. На трэйці дзень у горад увайшло... нямецкае войска...»

Вось-жа перадусім зазначым, што бальшавікі пакінулі Менск 18 лютага 1918 г., а нямецкія аддзелы ўвайшлі ў яго толькі цераз тыдзень, г. зн. 25 лютага.

Мы не пярэчым, што пры ўцёках бальшавікаў, сп. Паўлікоўскі із сваімі трымя сябрамі мог здабыць бальшавіцкі цягнік з вайсковымі матар'яламі ды што йснавала нейкая арганізацыя капітана Матушэўскага. Тым ня менш, самі бальшавікі, што тады ўцякалі зь Менску, апісваючы пазьней гэтыя падзеі, ня бачаць у іх Палякаў, а наадварот, бачылі Беларусаў. Так, прыкладам, тагачасны старшыня Саўнаркому Заходняй вобласьці Ляндэр, успамінаючы свае ўцёкі зь Менску, пісаў наступнае: «У горадзе пачаўся рух Беларусаў, якія рыхтавалі выступленьне супраць нас. На вуліцах пачаліся дробныя сутычкі, чулася страляніна. Калі т. Пятроў, камандант савету, увечары выводзіў мяне з савету праз чорны ход, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, якія шукалі мяне й таварышоў» («Вперед», Менск, 1922 № 1).

Што тут савецкі камісар называе беларускія аддзелы бандамі, у гэтым няма нічога дзіўнага — для бальшавікоў бандытамі былі ўсе, хто выступаў супраць іх. Але затое Ляндэр выразна кажа, што гэта былі Беларусы, а не Палякі. Пасуджаць-жа яго ў тым, што ён хацеў гэтым прызнаньнем зрабіць нейкую ўслугу ці рэкляму Беларусам, было-б зусім беспадстаўным. Пры гэтым можна дадаць, што ў тыя часы бальшавікі, падобна зрэштай, як і Палякі, не хацелі зусім прызнаваць Беларусаў за нацыю й выміналі навет самое слова «Беларус». І такі старшыня саўнаркому тады толькі, калі прыйшлося ўцякаць «праз чорны ход», пазнаў, што яго гоняць **Беларусы,** а ня хто іншы.

Трохдзённае польскае панаваньне ў Менску? Дык выбачайце, сп. Паўлікоўскі. З уцёкамі бальшавікоў уладу як у Менску, так і ў ягоных ваколіцах пераняла Рада Кангрэсу, таго Усебеларускага Кангрэсу, які адбыўся тут яшчэ ў сьнежні папярэдняга году. І якраз Выканаўчы Камітэт гэтае Рады 21 лютага выдае Першую Ўстаўную грамату, дзе гаварылася: «Мы павінны ўзяць свой лёс у ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці — на нацыянальную аўтаномію. «Часовы Ўрад, які зваўся Народным Камісарыятам, праводзіць мерапрыемствы для рэалізацыі вышэй абвешчанага: арганізуюцца збройныя сілы, гарадзкая беларуская міліцыя і г. д.

Такім чынам, трымаючыся стылю сп. Паўлікоўскага, з упэўненасьцяй можна сказаць, што пры ўсім сэнтымэньце да **праўдзівых і чэсных Палякаў** і пры ўсёй пашане да іхных незалежніцкіх імкненьняў мусім сьцьвердзіць, што ў «менскім эпізодзе» яны ніякае ролі ня згулялі (хіба што назавем Палякамі Беларусаў, якія, жывучы ад стагодзьдзяў на сваёй бацькаўшчыне, імкнуліся й імкнуцца да незалежнасьці яе). Пры гэтым яшчэ адцемім, што для нас гэта ня быў нейкі «эпізод», для нас гэта былі важныя падзеі на шляху змаганьня за незалежнасьць, якія й прывялі пасьля да абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. І якраз гэты дзень цяпер лічыцца ў нас найбольшым нацыянальным сьвятам.

**А. Галубіцкі**

# Варочаюцца з цаліны

У № 251 «Б-ны» была зьмешчана невялічкая зацемка С. Ясеня пад заг. «Казахстанская рамантыка». Аўтар гэтае зацемкі, аналізуючы адзін з савецкіх нарысаў, паказаў, **што** хаваецца за прапагандовай пісанінай савецкае прэсы, ды як у запраўднасьці выглядае гэная раструбленая па ўсім сьвеце хрушчоўская цаліна.

Гэтта, на яшчэ больш канкрэтных прыкладах, мы хочам падмацаваць цьверджаньне, што казахстанскія аблогі — гэта край пакут і зьдзеку і, што савецкая моладзь, наражаючыся на перасьледы ды прапагандовае цкаваньне, уцякае зь дзікое Азіі ў родныя краі.

### З крытыкай ня рыпайся — «сабатаж»!

Прадстаўнік радыя «Вызваленьне» сустрэўся нядаўна зь людзьмі, што вярнуліся з Савецкага Саюзу ў сувязі із звальненьнем аўстрыяцкіх «ваенных злачынцаў». Адзін зь іх расказаў аб сустрэчы зь сямю дзяцюкамі, якіх пасадзілі ў Спаску, у Казахстане, у ягоны турэмны вагон. Гэта была моладзь спад Масквы, якую пасылалі ў сталіцу на суд за «сабатаж». Адзін з гэных сямі, калісьці студэнт Маскоўскага Ўнівэрсытэту, сказаў: «Мне трэ было вучыцца, а яны мяне на працу». Пасьля ён расказаў свайму спадарожніку аб цяжкасьцях, на якія наразіліся «дабраахвотнікі» ў Казахстане: жыцьцё ў палатках, дрэннае харчаваньне, салома замест ложкаў і «бескарысная праца». Там ня было ні дажджу, ані якой-небудзь іншай магчымасьці абвадненьня палёў. Студэнт назваў усю гэтую задуму «бяссэнсоўнай і дурной у прысутнасьці іншых працаўнікоў і свайго начальства. За гэта яго арыштавалі й пасадзілі ў турму ў Спаску.

Ішыя вязьні казалі, што ўсюды на цаліне пануе бязладзьдзе, і шмат хто разьбягаецца.

### Лепш лягер прымусовае працы, чымся цаліна

Іншы сьветка, зь якім гутарыў прадстаўнік радыя «Вызваленьне», вярнуўся з Савецкага Саюзу ў траўні сёлета. Паўгода часу перад сваім звальненьнем ён правёў на розных перасыльных пунктах - у Карагандзе, Чэлябінску, Сьвярдлоўску, Куйбышаве, Горкім і Маскве. На сваім турэмным шляху ён ня сустрэў ніводнага палітычнага вязьня, які-б быў арыштаваны пасьля сьмерці Сталіна. Аднак усе турмы былі поўныя ад непалітычных зьняволеных - працаўнікоў з цалінных земляў. Сярод іх - былыя студэнты, інжынэры, хвабрычныя работнікі й г. д. Афіцыйна яны накіроўваліся на асваеньне цаліны як дабраахвотнікі, але на самай справе рабілася гэта ўсё праз назначэньне.

«Дабраахвотнікі» прыбывалі на цаліну ўзімку, калі маразы сягалі да 45 - 50 градусаў. Ім давалі палаткі й гаварылі: «Тут будзе абком, а тут гарком, тут клюб , і калі вы збудуеце ўсё гэта, дык тады будзеце забудоўвацца самі». Аднак, калі пабудова гэтых будынкаў была закончана, трэба было ўжо [illegible] сяўбу. Заработкі нізкія - ад 300 да 400 рублёў. У забесьпячэньні пануе страшэнны разлад: прыкладам адзін месяц не атрымоўваюць нічога, акрамя бэнзыны, другі - нічога, акрамя аўсяных круп.

Людзі пачалі прыдумоўваць усялякія спосабы каб як-небудзь вырвацца з гэтых умоваў. Яны сумысьля рабілі невялікія праступкі, як напрыклад, лаялі начальства ці заводзіліся біцца зь кім-небудзь. Звычайна, ім прысуджваюць за гэта ад аднаго да трох год лягеру прымусовае працы. Яны ўважаюць,

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

**К. Юхневіч**

# КАРНАВУХ

Вечарэла. Старшыня калгасу Карнавух парупіўся выйсьці з хаты. У іхным сяле ў гэты вечар ён наўмерыў адчыніць клюб. Жадалася чым-небудзь адзначыцца перад сваімі аднасяльчанамі.

Выйшаўшы на вуліцу, ён адразу пачаў абмяркоўваць сваю прамову. У галаву лезьлі розныя ўрыўкі з прамоў, якія прышлося яму слухаць у сельскім і ў раённым савеце ды на іншых паседжаньнях. Карнавуху запамяталася, што ў тых прамовах гутарылася пра догляд за жывёлай, пра выкананьне дзяржаўных абавязкаў, пра благую й добрую працу ў калгасах. Яны мелі пра што казаць.

— Але-ж якімі словамі казаць мне? — прагаманіў ён занята, зналусна зірнуўшы ўздоўж вуліцы, а тады на неба. Дзьве роўныя стайкі дзікіх качак, узьняўшыся з возера, што разьлівалася паабапал сяла, квакаючы й сьвішчучы крыламі праляцелі над ім кудысьці ў бок сенажацяў.

— Гэтак і быць: пачну пра нашую фэрму і кончу пра працу — усё'дна-ж і так працуюць усе, — падумаў Карнавух, і крыху насунуўшы шапку з патыліцы на лоб, пайшоў баржджэй.

На дварэ ўдавы Барбары гакала рэха сякеры — яна ськіпала дровы. Убачыла Карнавуха, кінула сякеру, і няголасна клікнула:

— Дабраслаў, старшыньку! Штосьці ня відаць цябе.

Карнавух адказаў, ледзь замаруджваючы хаду:

— Ня дзіва — працы шмат: зіма хутка... На сход прыходзь — будзем клюб адчыняць.

— Ах, старшынька, ня хочыцца, дый часу няма, — усьміхаючыся сказала ўдава, і ціха спыталася зноў:

— А калі-ж да мяне прыйдзеш? Хоцьбы раз паглядзеў...

Карнавух ажно прыпыніўся. Ужо каторы месяц удава запрашае яго завітаць да яе — паглядзець, як ей жывецца.

— Барбара, ня дуры галаву: чаго пайду да цябе? Я-ж бачу жывая, не памерла яшчэ.

Зь ейных вуснаў, як-бы вясёлы, не прапаў усьмех. Але ў запраўднасьці ў ім быў дакор і дражлівая жура. Яна была сярэдніх год. Жылістай, за лета загарэлай даланёй, падціснула пад хустку пасмы валасоў. Яна ўспомніла яму.

— Ты-ж зы мной зьбіраўся жаніцца, а ня зь ёй.

— Вось дык байкі, што й казаць — адклікнуўся Карнавух дагадліва і зьдзівіўся. — Сьмешная ты баба, за помач двумя пудамі бульбы гэтак паважаць мяне. Не маё-ж выдаў, а калгаснае...

Голас у Барбары здрыгнуўся, магчыма ад успомненага мінулага, што абое некалісьці ведалі й праймаліся ім, што можа яе хвалявала і сьхінала захоўвацца прад Карнавухам міла дый упросьліва. Яна прагаманіла:

— Бульба — ня хлеб, старшынька.

Доўга пазірала ўсьлед яму, як быццам даўно ня была тут, у сяле, а цяпер вярнулася туды і прыходзіцца зноў пазнаваць і людзей і мясцовасьць.

Каля наступнае сялібы Карнавух навет забыўся пра Барбару. Думаў толькі пра клюб і пра сваю прамову.

Сонца ўжо зайшло. Прасторыстае і гулкае навакольле каля сяла поўнілася скрыпеньнем асьвераў, кудахтаньнем кур і неразборлівым скрыкам гадавальнікаў жывёлы на дварэ пад самым скраем бору й возера.

Некалькі касільшчыкаў адзін за другім, ідучы паабач вуліцы зь перавешанымі косамі праз плячо, зрэдку пагутарваючы, барзьдзілі дадому. Яны да позняга касілі асянчу. Іхная шпаркая хада, здавалася, была падобная да вострых узмахаў косаў у гусьціні травы. Яны пахнулі потам і лугавой вогкасьцяй, а іхныя косы яшчэ зігатлівыя ў сумерку вечару, быццам ледзянелі ад гэтага ды калелі на плячох супачынам размашнай удаласьці й моцы гаспадароў.

Сустрэўшыся з Карнавулам, касцы пачулі ад яго:

— На ўрачыстасьць, калі ласка, прыходзьце. Клюб-жа адчыняем сяньня. Цяпер будзе месца ад працы адпачыць.

Быццам не ўпяршыню чуючы гэтакія гутаркі, касцы ня спыніліся паслухаць Карнавуха, але апошні адзадзя селянін адказаў яму:

— Павячэраць трэба. Часу стае табе — не кароў-жа даіць.

Каля будучага клюбу бегалі дзеці і праз разчыненыя дзьверы сьвяцілася цьмяністае сьвятло ліхтара. Вакон у клюбе ня было. Звычайны сьвіран адабраны ў багацейшага селяніна ды аддадзены ў карысьць калгасу. На сьценах ляжаў пыл і бруд, на столі красаваліся заплёты розных вялічыняў павуценьня. Вялікія й малыя павукі перабягалі або сядзелі ў самой еярэдзіне собскай тоненькай тканіны.

Васька-гарманісты ўжо справіўся перайграць уметыя ім танцы, але дарослыя зьбіраліся вельмі спакваля. Дзеці не задаволіўшыся беганінай з аднаго канца сьвірана ў другі, прымайстроўваліся ўзьлезьці па вуглох на сьцены.

Сам Карнавух, каб ня губляць дарэмна часу, праз некаторыя прамежкі чаканьня выходзіў на двор і ўторываў сваю прамову, уяўляў свой выгляд і захаваньне ў мамэнт прамаўленьня. У вапошні раз, як пачаць яе, ён у роздуме зайшоў на бераг возера. Бераг пяшчаны і абрывісты ад дарогі ўзьнімаўся выхапна ад вады. Возера ў цемнаце ледзьледзь бялелася ад туману, ягоныя папелясы цягнуліся да ўзьбярэжжаў няроўнымі слаямі, маўляў апухлыя, аціьвілелыя лапы прывідаў, пакідаючы самую сярэдзіну возера малачавай гладзінёй.

Карнавуху ўспомнілася, як калісьці ён тапіўся ў гэтым возеры будучы разам з уладнікам клюбу-сьвірану ў чаўне, што неспадзеўна працёк і затапліваўся вадой. Успамін уцемлівала часіна ахвярнасьці таго селяніна, калі ён сам добра ня ўмеючы плаваць кінуўся ў возера, падаў яму ў рукі канец вясла, а другі трымаючы сам, паплыў да берагу.

Карнавух паглядзеў на памятнае месца дзе той аднасельчанін выпаўз з вады разам зь ім, і не падымаючы галавы, зьнясілены, паваліўся на жарсьцвяк узьбярэжжа.

— Бу-у-у! Ня дай, Бог! Я жыву, а яго няма, — дадаў ён уціхамовак. Махнуў рукой на возера, пайшоў назад да клюбу.

Рахункавод калгасу ад суседзяў з клюбам прынёс стол і паставіў яго як трэба — сярод сьвірану. Карнавух азірнуў прысутных. Вырашыў пачынаць урачыстасьць. Пастукаў пальцам па стале. Усе сьціхлі. Толькі Васька-гармоністы не палянаваўшыся схадзіць да каапэрацыі й добра выпіць гарэлкі, ня сьціх адразу: ён ціскаўся ў кутку сярод дзяўчат, і гнусавіў:

— Ай дый дзеўка, ай ды падушка!

Яго супакоілі аддзельна.

Карнавух пачаў: — Таварышы!..

Прымоўк. — «А як далей?» — падумаў ён у пярэрве.

— Таварышы! Наша коняфэрма... Ах — ня гэтак! Конская... не... не! Пачакайце: лашадзіная, дабілася посьпехаў!..

Зьбянтэжана, не спакметна сабе, пацерабіў патыліцу. Бліжэйшыя да Карнавуха сяляне ўсміхнуліся. У закутках навет захіхікалі.

— Нашы жанчыны... Ах, не, не — ня гэтак! — зноў голасна прагаварыў ён.

І ў той раз яго ўжо ніхто ня чуў і ня слухаў — сяляне сьмяяліся. Некаторыя больш дуроныя дзеці толькі й жадаючы гэтага, паваліўшыся на падлогу, трасьлі ўгару нагамі й моцна пішчэлі. Карнавух стаяў за сталом із застыгшым, нясьмешным усьмехам, дый часта марасіў вейкамі разганяючы на зрэнках, быццам сьлёзы крыўды, быццам наплыўшую валогу ад зычнага подзьмуху сьмеху.

— Таварышы, я ня скончыў яшчэ — прашу сьціхнуць, — нахмурыўшыся зьвярнуўся ён, і на абліччу што дагэтуль пераменьвалася колярамі, лягла пэўная, успацелая чырвань. Вочы не переставалі мітусіць вейкамі. Збабчыў лоб.

— Таварышы, нас... Эй, дзе рахункавод?..

І не чакаючы яго зьяўленьня перад ім, спытаўся:

— Як гэта ў райкоме казалі?... А-а-а, ня трэба — я сам прыпамятаў!

Лікоўна ўзьняў палец.

— Як зяніцу вока нас сьцерагуць...

Дарослыя прысядалі ад сьмеху, дзеці яшчэ больш пачалі падскокваць і пішчэць ад невядомай задавольнасьці іхных бацькоў.

— Пачакайце, таварышы! Чаго трасцай разнасіліся? Пачакайце, кажу вам!..

# Правал савецкае акцыі за паварот на бацькаўшчыну

**(Прэсавае паведамленьне Амэрыканскага Камітэту для Вызваленьня ад Бальшавізму).**

У чацьвер, 29 верасня, двух дзяцюкоў і адна сям'я (мужык, жонка й двое дзетак), усе былыя савецкія грамадзяне, зьбіраліся вярнуцца ў СССР пры дапамозе «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну», аднак пасьля 5 дзён прабываньня ў Усходнім Бэрліне, яны пастанавілі ўцякаць назад на Захад.

Гэтая група складалася з Аўгена Немава (34 гады), ягонае жонкі з двума дзецьмі, зь Леанарда Харэвіча (37) ды Барыса Сярэбракова. Усе гэтыя ўцекачы жылі ў раёне Мюнхэну. Яны пастанавілі скарыстаць з амнэстыі, абвешчанае савецкім урадам, ды адгукнуцца на заклік вярнуцца на бацькаўшчыну.

Чатырох дарослых з гэтае групы былі пад уражаньнем так званага «жэнэўскага духу» і цьвёрда верылі, што палажэньне ў Савецкім саюзе моцна зьмянілася пасьля сьмерці Сталіна ды асабліва пасьля Жэнэўскае нарады. Яны паверылі ў праўдзівасьць вялікадушных абяцанак Камітэту й нядаўна апублікаванага ўказу аб амнэстыі.

Сям'я Немавых знаходзілася пад савецкім наглядам на працягу 10 дзён; двох іншых, якія ехалі разам, — на працягу 5 дзён. Ня гледзячы на тое, што гэтыя людзі былі знаёмыя яшчэ зь Мюнхэна, яны нічога ня ведалі аб узаемных намерах вярнуцца ў СССР і сустрэліся толькі ў Усходнім Бэрліне падчас праходжаньня камісіі ў Камітэце ды ў савецкам касуляце. Іхнае расчараваньне падчас прабываньня пад савецкім кантролем было настолькі вялікае, што яны прыйшлі да вываду ратавацца ўцёкамі. Яны цьвёрда пераканаліся таксама і ў тым, што «Камітэт за паварот на бацькаўшчыну» — гэта пастка ў руках савецкае разьведкі.

Асабліва драматычным мамэнтам было знаёмства із старэйшым лейтэнантам МВД, узброеным аўтаматам, які павінен быў правесьці іх ад савецкай граніцы. Гэты ахвіцэр адмовіўся падаць руку эмігрантам і кідаў на іх абураныя пагляды. Іхная віза на ўезд была перададзена ахвіцэру, які паведаміў ім, што яны паедуць не як вольныя грамадзяне, а пад ваенным канвоем, і ня ў тое месца, якое стаяла ў іхных дакумэнтах. Гэтыя-ж ахвіцэры разьведкі прабавалі завэрбаваць 2 мужчын з гэтай групы на спэцыяльную працу сярод эмігрантаў у Заходняй Нямеччыне. У сувязі з гэтым, яны навет намагаліся разьяднаць сям'ю Немавых, пасылаючы жонку й дзяцей у Савецкі Саюз, а мужыка ў Заходнюю Нямеччыну. Адначасна была зроблена спроба разьбіць і двух нежанатых, пакідаючы Харэвіча для шпіёнскае дзейнасьці ў Зах. Нямеччыне.

Іншым фактам, што зрабіў моцнае ўражаньне на сям'ю Немавых, быў спосаб выкарыстаньня іх для выступленьня праз радыё. Ім быў падсунуты гатовы тэкст перадачы і было забаронена прыбаўляць што-небудзь ад сябе. Акрамя гэтага, ахвіцэр разьведкі загадаў сп-ні Немавай напісаць пад дыктоўку ліст да свае маці, пераконваючы яе далучыцца да іх. Гэта пераканала Немавых у тым, што ўсе лісты, якія яны атрымоўвалі ад сястры сп-ра Немава з Савецкага Саюзу, і ў якіх яна пераконвала яго вярнуцца дадому, былі напісаны таксама пад прымусам. Ня гледзячы на запэўніваньні «Камітэту» ў тым, што ўцекачы могуць свабодна вярнуцца на сваё папярэдняе месца жыхарства, сп-ні Немавай было заяўлена, што яна ня зможа вярнуцца ў Маскву, дзе яна раней жыла. Усім чатыром дарослым было паведамлена, што іх канчальнае месца назначэньня будзе вызначана пасьля прыбыцьця ў Савецкі Саюз.

У часе прабываньня Немавых у Усходнім Бэрліне адбылася ўрачыстая адпраўка ў СССР эміграцкае сям'і Сокалавых. Аднак на наступны дзень Немава запрасілі ў савецкі кансулят і дакладна распытваліся аб жыцьці Сокалавых на Захадзе, аб сувязях іх з амэрыканскімі ды эміграцкімі групамі.

Немаў адчуў, што на Сокалавых, якія знаходзіліся на шляху ў Савецкі Саюз, складаўся абвінавальны акт і спалохаўся што тое самое станецца й зь ім пасьля ягонага ад'езду.

Жыцьцёвыя ўмовы ўсходняга Бэрліну, у параўнаньні зь іх собскім сьціплым жыцьцёвым стандартам на Захаадзе, выдаліся ўсім, што вярнуліся, надта мізэрнымі. Яны былі таксама няпрыемна ўражаны беднай вопраткай савецкіх урадаўцаў, якія не маглі паверыць, што ДэПі могуць жыць у гэткай дастатнасьці на свае сьціплыя заробкі ці навет на сяродкі сацыяльнага забесьпячэньня.

Старшыня Камітэту, гэнэрал-маёр Міхайлаў, які сустрэў эмігрантаў вельмі сардэчна, падчас іхнага другога наведаньня Камітэту зусім зьмяніў свае адносіны й паясьніў, што ён зусім не зацікаўлены іхным далейшым лёсам, і што ўсе іхныя справы ўваходзяць у кампэтэнцыю кансуляту, які, на думку гэтых эмігрантаў, таксама як і «Камітэт», займаецца разьведкай.

Падчас допыту мужчынам было зададзена мноства пытаньняў, што краналі эміграцкія групы ды паасобныя асобы ў Заходняй Нямеччыне; пры гэтым было запрапанована скласьці лісту адрасоў. Ахвіцэры разьведкі выказалі абурэньне з тае прычыны, што гэткія сьпіскі ня былі прывезены з сабой. На думку ахвіцэраў, уцекачы, будучы савецкімі грамадзянамі, павінны былі ведаць, што гэта трэба было зрабіць. У прыватнасьці, ім было загадана падпісаць ужо раней падрыхтаванае сьветчаньне аб забойстве аднаго эмігранта ў Мюнхэне іншым эмігрантам.

Уцёкі 4 дарослых і 2 дзяцей у Заходнюю Нямеччыну адбыліся ў дзень, калі сям'я Немавых і Сярэбракоў павінны былі быць адпраўлены ў СССР.

Пасьля іхных перажываньняў у «Камітэце за паварот на бацькаўшчыну» ды ў савецкім кансуляце, яны лічаць, што іншыя эмігранты, якія зьбіраюцца вярнуцца на бацькаўшчыну, павінны быць папярэджаны, каб ухіліцца ад паўтарэньня фатальных памылак.

# Варочаюцца з цаліны

**(Заканчэньне з 2 бачыны)**

што ўмовы ў лягерох прымусовае працы лепшыя за тыя, у якіх ім давялося жыць на цаліне ў Казахстане (праца вязьняў у сельскай гаспадарцы там не выкарыстоўваецца).

### Казахстанскія дэзэртыры на Беларусі

Пацьверджаньне вышэй пададзеных вестак, прынесеных на Захад беспасярэднымі назіральнікамі, дае нам і савецкая прэса, якой, у дадзеным выпадку, хлусьні закінуць нельга, хоць і трэба ўлічваць тое, што самое зьявішча супраціву й пратэсту яна намагаецца звузіць да мінімуму.

Цяжка ўсталіць дакладны лік беларускае моладзі, загнанае бальшавікамі ў казахстанскія саланчакі. Ведаем адно, што лік гэтых ахвяраў маскоўскае тыраніі вымерваецца сотнямі тысяч.

Калі пры адпраўках зь Беларусі эшалёнаў «па камсамольскіх пуцёўках» у сяго-таго й магла зрадзіцца думка, што мо неяк пражывецца й на цаліне, дык пасьля азіяцкага сонца, марозу, пылу й сацыялістычнае стаханаўшчыны зьнікла бясьследна й гэнае маленькае «мо». Сьмялейшыя ды больш зарадныя пачалі шукаць выхаду. Найлепшым, пэўна-ж, аказаўся паварот на бацькаўшчыну. На Беларусі з розных шляхоў і дарог масава пачалі зьяўляцца так званыя «дэзэртыры», якіх яшчэ колькі месяцаў таму - адны сьлязьмі, а іншыя лёзунгамі — адпраўлялі «на заклік партыі». Зразумела, што прапаганда й «клапатлівая» дзяржава сустрэлі гэткае сваволства ў патрыятычныя штыхі. Началося цкаваньне, лаянка ды прамаўляньне да камсамольскага і некамсамольскага сумленьня. Вось адзін з наглядных прыкладаў.

### Між казахстанскім дзірваном а лаянкай райкому

У камсамольскім штодзёньніку «Чырвоная Зьмена» з 21. 9. 55 зьявіўся артыкул- «Учынку іх няма апраўданьня». У артыкуле апавядаецца, як адзін з камсамольскіх верхаводзікаў сустрэў на вуліцы ў Менску, «ў дні разграму збору ўраджаю на цаліне», дзяўчыну, якую ён нядаўна завёз быў «на асваеньне» ў Казахстан. Дзяўчыну пацягнулі «пагутарыць» у райком камсамолу. «Так, - бунтуецца «Чырвоная Зьмена», - нажаль, гэтую гутарку давялося працягваць у райкоме, **і не ў вадным толькі Кагановіцкім райкоме камсамолу места Менску** (падкр. наша - А. Б.).

«Дзіяна Арашкевіч, Тамара Міранюк, Валянціна Хадасевіч, Лявонці Яцкевіч, Мікалай Хасенка, Аляксандар Далматаў, Павел Ліхтаровіч і іншыя ўсякімі довадамі, прычынамі імкнуцца апраўдаць свае ганебныя ўцёкі з цалінных зямель . . .

«З тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат, што паехалі на асваеньне абложных зямель, знайшлося ўсяго некалькі (? !) чалавек, якія спалохаліся працы, першых цяжкасьцяў, і **па-зрадніцку пакінулі сваіх таварышаў па працы, сваіх сяброў па палявым вагончыку (!).** (падкр. наша - А. Б.).

«Гэтыя дэзэртыры (інакш іх назваць нельга) добра ведалі, што іх тут ня будуць сустракаць з музыкай і кветкамі. Але яны не пабаяліся ганьбы, ня прыслухаліся да голасу свайго сумленьня...«

З высокага тону, узятага ў камсамольскім цэнтральным воргане, выразна прабіваецца заклапочанасьць, якую выклікае ў партыйных кіраўнікоў цаліннае дэзэртырства. Суровасьць рэакцыі на выпадкі павароту з Казахстану яшчэ раз, і нядвузначна, падкрэсьлівае тую цалінную жорсткасьць, ад якое ўцякаюць за тысячы кілямэтраў - і навет тады, калі гэтыя ўцёкі не сустракаюцца «з музыкай і кветкамі». Няма таксама найменшага сумлеву, што «партыя й урад» яшчэ возьмуцца за гэткіх «нясумленных зраднікаў». Гэта бідаць ужо зь фізіяноміі «Чырвонае Зьмены»:

«І сяньня, - канчае яна свой артыкул, - з ўсёй сур'ёзнасьцяй павінна паўстаць пытаньне аб тых, хто не апраўдаў высокага званьня камсамольца. Камсамольскія арганізацыі павінны давесьці да ведама грамадзкасьці ўчынкі дэзэртыраў, абмеркаваць іх паводзіны».

Вось вам і хрушчоўская цаліна, і камсамольскі «энтузіязм», і савецкая свабода, і Варашылава амнэстыя! Дык чаму-ж не варочацца на «Родзіну»? Ці-ж ня так, таварыш Міхайлаў? . . .

**А. Будзіч**

**В. Г. Глазкоў**

# Адраджэньне Казацкае Дзяржавы ў 1917–1921 гг.

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку праціўнікаў казацкага народу й ягонага аб'еднаньня, у пачатку студзеня 1920 г. у сталіцы Кубані быў скліканы Першы Вярхоўны Казацкі Круг-Парлямант, на які прыбыло па 50 дэпутатаў ад кажнага парляманту паасобных казацкіх дзяржаўных твораў — Войскаў-рэспублік, незалежна ад вялічыні іх тэрыторыі й колькасьці насельніцтва («Вестник Верх. Круга», Екацярынадар, 1920, Но. 1—37).

Агульнаказацкі парлямант ня меў яшчэ дагэтуль у гісторыі свайго папярэдніка. Аб'яднаньня казацкіх рэспублікаў баяліся ня толькі чырвоныя, але й белыя. Як адныя, так і другія ўсімі магчымасьцямі стараліся ня дапусьціць да такога аб'яднаньня. Камандваньне Белай Дабраахвотніцкай арміі на чале з ген. Дзянікінам страшыла Казакаў тым, што саюзьнікі спыняць беспасярэднія даставы зброі Казакам і ў далейшым будуць яе пастачаць толькі праз ген. Дзянікіна, які яўна не жадаў аб'яднаньня Казакаў і ўсімі спосабамі перашкаджаў гэтаму.

Бальшавіцкая ўлада й ейныя агенты таксама вельмі ўважна сачылі за падзеямі на Казацкіх Землях. Зь вялікай трывогай наглядалі яны за падрыхтоўчай працай над стварэньнем адзінае казацкае дзяржавы. Зразумела, ня было простай выпадковасьцяй ці супадзеньнем здарэньняў і тое, што генэральны наступ усіх савецкіх войскаў для прарыву казацкага фронту савецкае камандваньне назначыла якраз на дзень пачатку працаў Вярхоўнага Казацкага Кругу — 5 студзеня 1920 г.

Аднак-жа пачаты наступ бальшавіцкіх арміяў быў зламаны казацкімі войскамі, якія нанесьлі чырвоным зьнішчальныя ўдары («Гражданская война 1918—1921». т. 3, Масква, 1929).

Першая сэсія Вярхоўнага Кругу адбылася ад 5-га студзеня да 1-га лютага 1920 г. ў Екацерынадары; другая сэсія — ад 15 лютага да 6 сакавіка 1920 г.

10 студзеня 1920 г. Вярхоўны Казацкі Круг-Парлямант прыняў і зацьвердзіў зь нязначнымі папраўкамі прадстаўлены яму канстытуцыйнай камісіяй праект Саюзнай Казацкай Канстытуцыі й дэкларацыю да яе, якая пачыналася так:

«Мы выбранцы Донскага Вайсковага Кругу, Кубанскай Краёвай Рады, Церскага Вялікага Вайсковага Кругу, сабраліся ў Екацерынадары для арганізацыі наважальнай барацьбы супраць бальшавікоў і ачышчэньня ад іх нашых тэрыторыяў, абароны ад разгрому нашых сем'яў, устанаўленьня нутранага супакою й забясьпячэньне свабоды й права, бяром у свае рукі **вярхоўную ўладу** ў справах агульных для Дону, Кубані, Цераку й устанаўляем наступнае аб Вярхоўным Кругу:

1. Вярхоўны Круг зьяўляецца паўнамоцным прадстаўніцтвам дзяржаўных адзінак Дону, Кубані, Церака ды ставіць сабе за заданьні:
   а) утварэньне Саюзнае Казацкае Дзяржавы, складзенае з вышэй успомненых тэрыторыяў з пашырэньнем межаў саюзнае дзяржавы на новыя акругі на аснове саюзнай канстытуцыі й паводля свабоднага волявыяўленьня насельніцтва гэтых акругаў;
   б) утварэньне саюзнае ўлады.
2. Саюзная Канстытуцыя ўступае ў сілу з мамэнтам прыняцьця яе Вярхоўсым Кругам. . .» («Вестник Верховного Круга», 1920, Но. 1—12).

Цікава, што якраз у часе другой сэсіі Вярхоўнага Кругу бальшавікі сьпешна склікаюць 17—20 лютага ў Маскве г. зв. «Першы Усерасейскі зьезд працоўных Казакаў», на якім з асноўнымі дакладамі выступалі Ленін і Калінін, а Троцкі паслаў «зьезду» асобнае прывітаньне. Рабілася гэта выключна з мэтай унесьці сумлевы ў асяродзьдзе Казакаў і аслабіць значэньне скліканьня Вярхоўнага Казацкага Кругу й ягоных пастановаў, якія выклікалі сярод казацкага народу агромны ўздым (Троцкий Лев. Как вооружалась революция. т. I, б. 74—108).

Вярхоўны Круг разьвязаў умову Казакаў зь белай дабраахвотніцкай арміяй ген. Дзянікіна аб супольнай барацьбе супраць бальшавікоў. Ген. Дзянікін у сваіх успамінах «Очерки русской смуты», т. 5, б. 292—294, сьветчыць наступнае: «. . .Казацтва палічыла магчымым **самастойна** й аднабакова разьвязаць пытаньне пабудовы сваей агульнай улады. 5 студзеня ў Екацерынадары сабраўся Вярхоўны Круг, які прыступіў да ўста-

**(Працяг на 4-ай бачыне)**

Няхай жывуць таварышы... Ах каб яго — ізноў ня гэтак!.. Няхай жывуць... — ... усе!

—... і пасуцца! — два скрыкі выхліпнулі з гушчыні сяльчанаў.

— Пачакайце, кажу! Я-ж блага ня думаю: я хачу сказаць каб жылі... Ах, правалецеся вы ўсе... танцуйце! Грай там, Васька!

Васька ня чуў Карнавухавага наказу, чуўся толькі сьмех і сьмех. Карнавух усё-такі трымаючыся пры сваім, махануў рукоў, крыкнуў: «добрай ночы», і «каб вас зямля не насіла, галазубы», пайшоў прэч.

Туман выплыў з далавінаў лугоў, разпыліўся ўсюды. Дзікая качка, мабыць адбіўшыся ад статку, дзесьці на возеры, клічна квакала і перарыўна хлопала па вадзе крыламі. Пеўні сьпявалі перамену пагоды. У перамежку рознымі галасамі гаўкалі сабакі.

Карнавуха апанаваў новы клопат больш ацеўлівы й цалахлівы.

— Я-ж ня ўмеў прамовіць. Хто небудзь скажа пра ўсё гэта ў савеце й мне ўляціць ... ат, уляціць ...

Нядаўная рупнасьць пра прамову замянілася турботай знайсьці на ўсялякі выпадак зьветнасьць на апраўданьне. Ён прыдумаваў шмат тлумачэньняў і з кажным сам не пагаджаўся.

У разважаньні дайшоў да свае хаты. Перад тым як пераступіць парог, ён паглядзеў на страху на якую глядзіць блізу два гады.

— У гэтым годзе хоць крыху шчасьлівіла: ішло мала дажджу. Трэба штосьці рабіць.

Памераваў украсьці хвою на драніцы.

— Страшнавата ...

Пераступіў парог. У той вечар чамусьці дзікая лебяда й кусты конскага палыну на страсе стаялі ў ягоных вачох...

Ціханька распрануўся. Дзеці й жонка спалі. Бяз словаў, у памяці, памаліўся, і лёгшы ў ложак, зноў вярнуўся шукаць даверлівых тлумачэньняў дзеля апраўданьня ў савеце. І пашчасьціла — натрапіў.

— Скажу, на сходзе ня прысутнічалі большыя за мяне, ды хоць-бы гэты касавень Зьмітрук — камсорг, таму я і зьбянтэжыўся. Што пацьвердзяць: Сымон, Тумаш ды інцыя ...

Не паражнечу пачуцьцяў напатканыя за аджыты дзень, ягоная душа дапаўняла й рабіла лёгкай, сьветасьліва прыемнай. Ён заснуў. Яму сьнілася, што коні й сяляне любяць яго, і яны радзілі яму:

— Скажы начальству ў павеце: таварышы, я добра рабіў, але ня выйшла. Паверце: ня выйшла.

# У Белавескай Пушчы

Верасень — найлепшая пара году ў лясох Белавежы. А сёлета восень зусім асаблівая, такая сухая й цёплая, што часам забываешся аб тым, што ўжо мінула лета, і толькі пачатак ападаньня лістоў, сьцюдзенаватыя ночы ды толькі заклікальныя трубныя гукі аленяў-рагачоў напамінаюць, што прыйшла восень.

Цяпер у пушчы пануе найбольшае ажыўленьне. На зары лясы напаўняюцца моцным, падобным да рову тыграў, рыканьнем аленяў-самцоў. Стады дзікіх сьвіньняў з падрослымі парасятамі брод зяць пад дубровамі ў пошуках апалых жалудоў. Аднавілі свае песьні глушцы й цецярукі.

Што-ж здарылася за апошні час у Белавескай пушчы? Мінулае лета, цёплае й вільготнае, прынясло сёлета нешта новае й ня зусім звычайнае для жыцьця Белавескае пушчы. Яшчэ зусім нядаўна найстарэйшыя жыхары гэтых лясоў — магутныя зубры — вяліся тут толькі ў нявялікіх загарадзях за трывалымі й высокімі платамі. Можна было думаць, што зубры зусім страцілі інстынкты дзікіх зьвяроў, перарадзіліся ў спакойных дамовых жывёлаў. І наагул у шматлікіх дасьледнікаў Белавескае пушчы было мала надзеі на тое, што ў недалёкай будучыні зубры ўзноў будуць брадзіць па лясох і лугох Белавежы.

8—9 год таму за загарадзяй гадавальніка было ўсяго пяць зуброў, зь якіх — дзьве зубрыцы. Але цераз 6 год лік зуброў значна павялічыўся — быў выгадаваны прыплод і прывезеная новая колькасьць жывёлаў з Польшчы.

У 1953 годзе для пяці маладых зуброў адкрылі вароты гадавальніка. Лёгкім і хуткім галёпам яны выбеглі з загарадзі і зьніклі ў гушчары лесу. Што-ж будзе далей, вернуцца яны ці не? Мінула крыху часу і сыльвэткі зуброў паказаліся на ўскрайне. Яны вярнуліся да загарадзі і на працягу цэлага першага году свайго «вольнага» жыцьця яны не адыходзілі ад гадавальніка далей за 500—600 мэтраў. На наступнае лета гэтае стада пабольшылася да 9 галоў, бо ў яго ўвайшлі ўжо дарослыя самцы й самкі. Аднак паводзіны выпушчаных зубраў заставаліся папярэднімі: яны далей жылі побач загарадзі, рэгулярна зьяўляючыся на падкорм.

Неяк у сярэдзіне лета стада зьнікла. Яго ня адразу знайшлі. Пасьля колькіх дзён зубры былі заўважаны ў чатырох кілямэтрах ад гадавальніка. З гэтага часу стада ўсё далей і далей адыходзіла ў пушчу. Жывёлы сталіся больш пужлівымі. Знаходзячыся далёка ад гадавальніка яны ўжо сьцерагліся падозранага гуку, настарожваліся ды хаваліся. Глыбокай восеняй зубры вярнуліся да гадавальніка й жылі ўсю зіму ля кармілкі, спэцыяльна для іх наладжанай. Толькі ў цёплыя зімовы дні яны адыходзілі ў лес карміцца маладымі адросткамі вярбы, сасны, ясеню й дубу.

Наступіла вясна 1955 году — час ацёлу зубрыцаў. Самкі пачалі захоўвацца неспакойна, намагаліся вярнуцца ў папярэднія загарадзі, дзе звычайна яны цяліліся, аднак вароты былі зачынены і зламаць іх ім не ўдалося. Цераз некалькі дзён стада зьнікла, і як ні стараліся знайсьці яго егеры, пошукі былі дарэмнымі. Урэшце стада было знойдзена. Егеры заўважылі, што ў зубрыцаў зьявіліся цяляты.

Гэткім чынам, сёлета ў Белавескай пушчы першы раз пасьля некалькіх дзесяцігодзьдзяў радзіліся ў лесе «вольныя» зубры. Паводзіны стада крута зьмяніліся. Цяпер зубрыцы, а разам зь імі і ўсё стада, захоўваюцца як дзікія. Пабачыць іх вельмі цяжка, падыйсьці да іх — амаль немагчыма. Пры найменшым шораху жывёлы бясшумна хаваюцца, і толькі па адбітках капытоў і па паломаных галінах можна акрэсьліць, што тут пабывалі гэтыя вялізарныя зьвяры. Цікава, што ўжо цяпер стада жыве ў тых мясцох, якія калісьці лічыліся ўлюбёнымі дзікіх зуброў.

Калі паглядзець на стада, якое пасьвіцца, дык можна пабачыць гэткі малюнак: наперадзе йдзе ваджак — найдужэйшая зубрыца, па бакох пасьвяцца дарослыя зубры, а ў цэнтры сабраўся ўвесь маладняк — прыплод гэтага году. Замыкае стада вялізарны зубр-самец. У гэткім менш-больш парадку разьмяшчаецца стада й на адпачынак.

Егеры заўважвалі, што па сьлядох зуброў хадзілі ваўкі, аднак блізка да іх не падыходзілі і зьнікалі ў іншым кірунку. Відаць, гэтыя магутныя жывёлы, а асабліва ў такім арганізаваным стадзе, зусім не па сіле паасобным ваўком, якія яшчэ засталіся ў пушчы.

Навуковыя супрацоўнікі запаведніка й егеры нясупынна вядуць нагляд за зубрамі, як за тымі, што жывуць на волі, так і за тымі, што знаходзяцца ў гадавальніку. Яны вывучаюць іхнае жыцьцё,звычкі, корм, і на аснове гэтага распрацоўваюць найбольш рацыянальныя мэтады гадоўлі.

Цяпер у гадавальніку, апрача 13 выпушчаных зуброў, захавалася асноўнае племяннае стада з 14 галоў. Апошнімі гадамі з запаведніка было вывезена пэўная колькасьць самцоў у Алма-Ату, Асканію Нова, на Паўночны Каўказ і пад Маскву. У першых двух пунктах белавескія зубры выкарыстоўваюцца для гібрыдызацыі з дамовай жывёлай.

Нядаўна з запаведніку вывезьлі двух зуброў-самцоў у Хоперскі запаведнік (Балашоўская вобласьць) для арганізацыі там новага гадавальніка, дзе зубры будуць разводзіцца шляхам скрыжаваньня чыстакроўных зуброў-самцоў з з зубра-бізонкамі.

За апошнія гады у Белавежы пабольшылася колькасьць і іншых каштоўных жывёлаў — аленяў, ласёў, дзікіх сьвіньняў і казуляў. Цяпер тут налічваецца больш за 700 аленяў і столькі-ж казуляў, каля 400 дзікіх сьвіньяў і больш за 30 ласёў.

**С. Д.**

# Амэрыканская сельскагаспадарская дэлегацыя ў СССР

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

Сяброў амэрыканскай дэлегацыі надзвычайна цікавілі бытавыя ўмовы жыцьця кальгасьнікаў і работнікаў саўгасаў. Асабліва дэлегаты дабіваліся высьвятліць прыбыткі калгасьнікаў ад аплаты працаднёў і ад асабістай гаспадаркі. Аднак імкненьне дэлегатаў не заўсёды ўдавалася ажыцьцявіць. Старшыні калгасаў усялякімі спосабамі старанна ўхіляліся ад адказаў і ў бальшыні павялічвалі прыбыткі калгасьнікаў, пераводзячы кошт працадня натураю на грошы паводля вольных рыначных цэнаў. Вось прыклад:

Пры наведваньні калгасу імя Ільліча Запароскай вобласьці старшыня Максіменка паведаміў дэлегацыю, што колькасьць працадзён, выпрацаваных у калгасе, у сярэднім складае на аднаго чалавека 446 дзён. Цыфра запраўды ладная, хоць і сумлеўная, бо выходзіць, што кажны калгасьнік у працоўныя дні выпрацоўвае паўтары нормы. Вось-жа дэлегаты зацікавіліся, чым-жа жывуць калгасьнікі, бо ім на працадні ня выдаюць мяса. Дасьціпны старшыня калгасу «аўтарытэтна растлумачыў» што мяса калгасьнікі маюць у дастатку ад сваіх собскіх гаспадарак, бо яны гадуюць сьвіней і дамашнюю птушку. У гэтым калгасе наагул «шчасьце спадарожнічае калгасьнікам». Як паведаміў старшыня калгасу, адзін калгасьнік выграў на аблігацыях пазыкі 25 тысячаў рублёў, другі 12 тысяч рублёў, шмат калгасьнікаў на аблігацыях выграла па 400-1000 рублёў.

Як паведамляла савецкая прэса, амэрыканская дэлегацыя зажадала адхіліцца ад вызначанага ёй маршруту і наведала на Кубані калгас імя Леніна. Калгас — уладар 25 тысячаў гэктараў пладавітай зямлі і ў ім налічваецца 4.800 працаздольных калгасьнікаў. Калгас засявае 9 тысяч гэктараў збожжавымі культурамі, 2.500 гэктараў рознай гароднінай. Калгас атрымаў у мінулым годзе 16 мільёнаў 700 тысяч рублёў прыбытку. А калі дэлегаты зацікавіліся, якія-ж даходы мелі калгасьнікі за сваю працу ў калгасе, то высьвятлілася, што калгасьнікі атрымалі за працадзень па 1,2 кілёграма хлеба, 6,8 кілёграма гародніны і 5 рублеў 50 капеяк грашыма. Чым-жа можна растлумачыць такую мізэрную аплату працы калгасьнікаў? Відаць, калгас, выконваючы плян розных нарыхтовак, здаў дзяржаве збожжа і гародніну, а калгасьнікі засталіся на поўгалоднай натуральнай норме харчаваньня, маючы на працадзень усяго 5 руб. 50 капеяк за дзень працы. Характэрна, што ў гэтым калгасе-мільянэры надоі малака ў параўнаньні зь мінулым годам абнізіліся на 150 кілёграмаў на адну карову. У гэтым калгасе дэлегаты зацікавіліся, ці наведваюць калгасьнікі царкву? Старшыня паведаміў, што «шмат пажылых людзей наведвае царкву».

У калгасе імя Сталіна Сталінградзкай вобласьці старшыня калгасу Коблеў паведаміў дэлегацыю, што даход у гэтым годзе калгаснай сям'і будзе ў сярэднім складаць у пераводзе на грошы паводля сярэднярыначных цэнаў 14.177 рублёў, апрача таго з прысядзібнага вучастку даход будзе больш 8 тысяч рублёў. Разьлікі, відавочна, павялічаныя і заўчасныя.

Казачныя зьвесткі аб даходах калгасьнікаў далі дэлегатам у калгасе «Страна Советов» Акмалінскай вобласьці. Там калгасьнікі атрымліваюць ад асабістай гаспадаркі 5 тысяч рублёў, а за працадні каля 30 тысячаў рублёў.

У саўгўсе імя Малатава на Кубані дэлегат Джонсон папрасіў дырэктара калгасу прывесьці некалькі прыкладаў аплаты працы работнікаў саўгасу. «Джонсону адказалі, адзначае газэта «Сельское хозяйство» за 31 ліпеня сёлета, — аднак дэлегатаў гэта не задаволіла, яны сталі высьвятляць другія элемэнты, якія паказваюць жыцьцёвы ўзровень работнікаў саўгасу».

У час аб'езду вобласьцяў дэлегацыя зьвярнула ўвагу, што праца ў калгасах, у тым ліку і найбольш цяжкая, выконваецца пераважна жанчынамі. Гэтае зьявішча вельмі зьдзівіла Амэрыканцаў.

Пры наведваньні Маскоўскага мясакабінату, у гутарцы аб цэнах на мясныя вырабы высьвятлілася цікавае зьявішча, якое выклікала надзвычайнае зьдзіўленьне ў дэлегатаў. Выявілася, што ў СССР сьвініна сальная ў тры разны даражэй мясной. На гэта дэлегат Пайк зазначыў, што сьвіное мяса ў ЗША ў дватры разы даражэй, чым сьвіное сала.

Свае назіраньні аб матар'ялным становішчы калгасьнікаў выказаў сябра дэлегацыі Дэмансон пры наведаньні Краснадарскага ўсесаюзнага навукова-дасьледавальнага інстытуту. Ён сказаў: «Сваю думку я магу выказаць толькі на падставе тых калгасаў і саўгасаў, якія мы наведалі: пры гэтым я прымаю пад увагу даходы калгасьнікаў і ад прысядзібных вучасткаў. Аднак нам думаецца, што жыцьцёвы ўзровень амэрыканскіх фэрмэраў вышэйшы, чым савецкіх сялянаў».

У Алма-Аце дэлегацыя разьдзялілася на дзьве групы з мэтаю найбольшага азнаямленьня з саўгасамі і калгасамі на цаліне. Адна група наведала саўгас «Егорьевский» Алтайскага краю. У саўгасе засеяна 16 тысячаў гэктараў ярыною. Фэрмэр Аса Кларк, кінуўшы вокам на пасевы яравой пшаніцы, сказаў: «Тут будзе 10 цэнтнараў з гэктара». Аднак дырэктар саўгасу Клімовіч спрачаўся і стараўся давесьці, што ўмалот пшаніцы значна вышэйшы за 10 цэнтнараў. Кларк усьміхнуўся й сказаў: «Можа быць і вышэйшы, але я клясьціся ня буду».

Другая група дэлегатаў знаёмілася з гаспадаркамі на цаліне ў Акмалінскай вобласьці. У гутарцы з старшынёю Акмалінскага аблвыканкому ён прымушаны быў прызнаць, што ў гэтым годзе тут ад травеня ня было аніводнага дажджу, што адбілася на ўраджаю — ён значна ніжэйшы за леташні.

Непацяшальныя зьвесткі аб асваеньні цаліны даў і старшыня калгасу ім. Хрушчова Гнацюк. Ён пахваліўся, што, ня гледзячы на засуху, гэктар дае 8-9 цэнтнараў пшаніцы.

Дэлегацыя даведалася ад старшыні аблвыканкому, што з розных месцаў цаліны ў вобласьць прыехала 120 тысячаў чалавек, а ў Алтайскі край прыехала — 100 тысяч «патрыётаў», як перасяленцаў назваў страшыня Алтайскага аблвыканкому. Як адзначыў дырэктар саўгасу «Свободный», гэтыя змучаныя людзі «жылі ў палатках, а часам і пад адкрытым небам».

Амэрыканскую сельскагаспадарскую дэлегацыю, пачынаючы ад Масквы, і канчаючы далёкімі калгасамі і саўгасамі на цаліне ў Сібіры і Казахстане, прадстаўнікі савецкай улады сустракалі квяцістымі прамовамі аб дружбе і мірным суіснаваньні двух «вялікіх народаў». Сустракалі і разьвітваліся з кветкамі і падаркамі. Напрыклад у Адэсе на разьвітальным банкеце, які быў арганізаваны міністэрствам сельскай гаспадаркі Украіны, дэлегаты атрымалі украінскія сарочкі, мастацка зробленыя ларцы і навет набор розных вінаў.

Аднак багатыя і цеpазьмерныя пачастункі ня прытупілі ўвагі Амэрыканцаў аб'ектыўна разабрацца і дасьледаваць становішча сельскай гаспадаркі ў СССР. Зразумеўшы, для якой мэты арганізоўваюцца банкеты, І-га жніўня дэлегаты злажылі савецкаму прадстаўніку міністэрства СССР пратэст. Яны адкрыта выказалі сваё незадаваленьне, заявіўшы, што замест агляду калгасаў, іх прымушаюць траціць час на банкеты, абеды, фармальныя візыты. Незадаваленьне гэта выявілася ў часе сьнеданьня ў Краснадары, калі сябром дэлегацыі было прапанавана яшчэ адзін дзень патраціць на агляд вінадзельнага калгасу, у якім вырабляецца шампанскае. У сувязі з частымі пачастункамі дэлегат Хэрбэрт Пайк сказаў: «Я прывёз з сабою дзьве зьмены бялізны, але толькі адзін жывот».

З усяго відаць, што Масква разьлічвала ўрачыстымі прыняцьцямі згладзіць тое ўражаньне, якое склалася ў Амэрыканцаў ад цяжкага становішча калгасаў і саўгасаў, ад нязьдзейсьненьня надзеяў на цаліну і няўдачныя экспэрымэнты з кукурузаю. Проба выратаваць міт аб сьветнай перавазе савецкай сыстэмы сельскай гаспадаркі закончылася няўдачай.

Амэрыканская дэлегацыя, агледзеўшы калгасы і саўгасы, а таксама іншыя сельскагаспадарскія арганізацыі, устанавіла:

1. Нізкую вытворчасьць працы ў калгасах і саўгасах, малаэфэктоўнае і недастатковае ўжываньне мэханізацыі і карыстаньне ўстарэлымі сельскагаспадарскімі машынамі.
2. Недастатковае выкарыстаньне дадасягненьняў сучаснай сельскагаспадарскай навукі.
3. Цэнтралізаванае кіраўніцтва калгасамі і саўгасамі канчаткова зьнішчыла ініцыятыву калгасьнікаў і работнікаў саўгасаў.
4. Цаліна не апраўдала надзеяў камуністычнага кіраўніцтва дзеля павялічэньня агульных збораў збожжа.
5. Усходняя частка СССР падпала пад засуху.
6. Усесаюзны экспэрымэнт шырокага распаўсюджваньня на вялізарных плошчах кукурузы не апраўдаўся.
7. Мізэрныя даходы калгасьнікаў, цяжкія бытавыя ўмовы калгасьнікаў і работнікаў саўгасаў, нягоды перасяленцаў на цаліне, даводзяць да страты надзеі на лепшае жыцьцё.
8. Імкненьне савецкага кіраўніцтва захаваць ад вольнага сьвету пэрманэнтны крызіс сельскай гаспадаркі.

Аб'ектыўна дасьледаваўшы савецкую сыстэму сельскай гаспадаркі, амэрыканская дэлегацыя пераканалася, што сельская гаспадарка ў вольным сьвеце, пабудаваная на прыватнай ініцыятыве, мае бяссумлеўныя перавагі і відавочныя посьпехі ў параўнаньні з саўгасна-калгаснай сыстэмай.

**В. Б.**

# Адраджэньне Казацкае Дзяржавы ў 1917—1921гг.

(Працяг з 3-яй бачыны)

наўленьня незалежнае казацкае саюзнае дзяржавы...»

Бальшавікі таксама сьветчаць, што казацкі народ у 1917—21 гг. «змагаўся пад лёзунгам казацкай самастойнасьці». «Казакі прадстаўлялі казацтва асобнай нацыяй з апрычонымі рысамі эканамічнага быту й палітычнага ладу...» «Поўнапраўным і поўнаўладным ворганам у казацкіх вобласьцях, не дапушчаўшым **ніякага** ўмяшаньня цэнтральнай расейскай улады, павінен быць вайсковы круг, вайсковы ўрад...» «Гэты адрыў акраінаў ад рэвалюцыйнага цэнтру й спроба супрацьстаўленьня бальшавіцкай агітацыі рэакцыйна-фэдэралістычных і незалежніцкіх ідэяў, укараноўваецца стварэньнем зь ведама саюзьнікаў Саюзу Казацкіх Войскаў. У гэты саюз увайшлі Дон, Кубань, Церек, Стаўропаль, Астрахань, Саюз Гарцоў Каўказу...» («Большая Советская Энциклопедия», т. 30, б. 622—630; Ленин, Соч. XXI).

Бальшавікі, улічваючы той факт, што Казакі адрадзілі свае самастойныя Войскі-рэспублікі й мужна абаранялі іхную свабоду й незалежнасьць ад савецкае агрэсіі, пробавалі ўнесьці нутраную нязгоду й аслабленьне ў асяродзьдзе казацкіх народных масаў шляхам дывэрсыйнага стварэньня г. зв. «Донскай Савецкай Рэспублікі», якая была абвешчана «згодна з інструкцыямі Леніна й Сталіна 9-га красавіка 1918 г.», а таксама з мэтай разьдзяленьня Казакаў на «працоўных» і на «нацыянальных буржуяўкадэтаў» (В. Котельников. Дон-Кубань-Терек, Масква, 1950, б. 33, 48; БСЭ, т. 30).

Падобна «Донскай Савецкай Рэспублiцы» ў канцы красавіка 1918 г. бальшавікамі была абвешчана й г. зв. «Кубанская Савецкая Рэспубліка» (Котельников, б. III).

Што тычыцца тэксту прынятых казацкімі парлямантамі канстытуцыяў і ўсіх дакумэнтальных дадзеных, што адносяцца да іх, то яны апублікаваныя ў цэлым шэрагу працаў і кнігаў розных аўтараў, а перадусім у Донской Летописи, т. I—III; Бюллетень Верховного Круга, Но. 1—17; Архив русской эмиграции, Бэрлін, 1926; Трагедия Козачества, т. I—IV.

Усе гэтыя зусім відавочныя й бясспрэчныя гістарычныя факты, пасьветчаныя ўжо багатай гістарычнай тагачаснай літаратурай і дакумэнтальнымі дадзенымі, з усёй яснасьцяй разьбіваюць усе спробы ворагаў казацкае свабоды даказваць быццам-бы ідэя адраджэньня казацкае дзяржавы зарадзілася толькі за межамі й амаль «зь ініцыятывы варожых Расеі чужынецкіх колаў». Аднак-жа, усе гэтыя няясныя прыёмы фабрыкуюцца толькі па тое, каб падараваць у вачох грамадзтва вольных краінаў Захаду давер да імкненьняў казацкага народу. Гістарычныя-ж дакуманты й факты з усёй дакладнасьцяй і бязь ніякае двусэнсавасьці ясна гавораць аб тым, што Казакі пасьля рэвалюцыі 1917 г. адрадзілі свае поўнасьцяй самастойныя дзяржавы-рэспублікі, а потым у студзені 1920 г. аб'яднaлі іх ізноў-жа сваёй усенароднай воляй у вадну Саюзную Казацкую Дзяржаву, якую самі Казакі называюць старым імём Казакія — краіна Казакаў.

На тэрыторыі былой Расеі й сучаснага Савецкага Саюзу амаль ня знойдзецца больш народу, які мог-бы пахваліцца такім багатым і пазытыўным досьледам дзяржаўнага будаўніцтва, як Казакі, якім зусім легальна стварылі сваю Канстытуцыю, сваю казацкую ўладу зь ейнымі атрыбутамі: парлямантам, прэзыдэнтам, урадам, арміяй, фінансамі, свой гэрб, сьцяг, гымн і г. д. І ўсё гэта адбывалася ў умовах вайны, калі прыходзілася трымаць фронт супраць паўтарамільённае бальшавіцкае арміі.

Трэба пры гэтым падкрэсьліць, што адраджэньне казацкае дзяржаўнасьці не зьяўлялася вынікам імкненьняў якой-небудзь аднэй палітычнай партыі ці групы або аб'яднаных партыяў, але даслоўна агульнай, усенароднай воляй усяго насельніцтва Казацкіх Земляў. Супраць гэтай волі ня было тады ніякіх запярэчаньняў ці сумлеваў навет у тых старонынікаў ідэі «адзінай і недзялімай Расеі» з Казакаў, якія такімі сталіся толькі ўжо тут на эміграцыі ды асабліва пасьля ўзьдзеяньня на іх рэакцыйнай часткі расейскае эміграцыі пасьля першага г. зв. «Расейскага Зарубежнага Зьезду» ў 1926 г. у Парыжы, у якім прадстаўнікі Казакаў наважана адмовіліся прыняць удзел, паказваючы на самастойнасьць сваёй казацкай палітыкі й сваіх казацкіх мэтаў. На казацкай бацькаўшчыне ўсе гэтыя «адзінанедзялімцы», уключаючы й іхных правадыроў, поўнасьцяй дабравольна, бязь ніякага прымусу, складалі ўстаноўленую Кругамі і Радай прысягу «служыць на карысьць толькі свае казацкае бацькаўшчыны», у знак чаго цалавалі сьв. Эвангельле й сьв. Крыж. Ад складзенае прысягі іх да гэтага часу ніхто ня звольніў...

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# Гісторыя з савецкімі гісторыкамі

Навуковыя выданьні мюнхенскага Інстытуту Вывучэньня СССР прыцягнулі асаблівую ўвагу савецкіх навукоўцаў, што удзельнічалі ў Дзесятым Кангрэсе гісторыкаў у Рыме. Іхнае зацікаўленьне аднак, гэтымі публікацыямі пайшло куды далей, чым гэта звычайна бывае: яны укралі з выстаўкі тры кніжкі, а пры паўторнай спробе былі злоўлены на гарачым учынку.

Тры ўкрадзеныя працы былі: Б. Якаўлева «Канцэнтрацыйныя лягэры ў СССР», Д. Карава «Партызанцкі рух» і **Н. Недасека «Бальшавізм на шляхох устанаўленьня кантролю над Беларусяй».**

Савецкія гісторыкі зь першага дня Кангрэсу зацікавіліся выстаўкай прац Інстытуту, што была разьмешчана побач стэнду з савецкімі публікацыямі. Адзін з камуністычных гісторыкаў выказаўся аб працах эміграцкіх навукоўцаў, як аб «вельмі цікавых». «Аднак», дадаў ён, «мы ўжо ад даўжэйшага часу ня бачылі подобных рэчаў».

Кіраўнічка-ж савецкае дэлегацыі Анна Панкратава, сябра ЦК КПСС, не магла перанесьці посьпеху выстаўкі інстытуцкіх выданьняў. Разглядаючы антыкамуністычныя публікацыі, яна гістэрычна крычала, б'ючы кулакамі ў стол, а пасьля разам з урадаўцамі савецкае амбасады запатрабавала, каб старшыня прэзыдыюму Кангрэсу закрыў выстаўку прац мюнхэнскага Інстытуту для Вывучэньня СССР. Каб супакоіць савецкую дэлегацыю з прэзыдыюму Кангрэсу выйшла прапанова перанесьці інстытуцкія кніжкі далей ад савецкага стэнду. Гэтая прапанова была ўважаная арганізатарамі інстытуцкае выстаўкі за афронт і ў знак пратэсту яны зьнялі сваю калекцыю з выстаўкі.

Ня гледзячы на зьняцьце інстытуцкіх публікацыяў з выстаўкі, кажнаму ўдзельніку Кангрэсу стала ясна, што ў вольным сьвеце могуць ствараeцца вартасныя рэчы навукоўцамі-эмігрантамі, якіх бальшавікі абзываюць «платнымі лакеямі Амэрыкі».

**УВАГА!**

### БЕЛАРУСКАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У ПАРЫЖЫ

**(Да ведама ўсіх Беларусаў у Францыі)**

Дня 13-га лістапада сёлета адбудзецца ў Парыжы сьвяткаваньне 10-ых угодкаў заснаваньня Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. Гэтага дня раніцаю а 11-ай гадз. будзе адпраўлена ўрачыстая Служба Божая ў Беларускай Капліцы, а папалудні а 15-ай гадз. адбудзецца акадэмія ў сындыкальнай залі: 26, rue Montholon, Paris 9 (Metro: CADET) з наступнаю праграмай:

1. Урачыстае адкрыцьцё.
2. Прывітальныя прамовы.
3. Даклады аб сындыкальным руху.
4. Агляд 10-гадовай дзейнасьці АБРФ.
5. Мастацкая частка.

У часе перапынку для прысутных будзе наладжана скромнае прыняцьце.

Усіх сяброў з адзелаў АБРФ з правінцыі, якія маюць намер прыехаць на сьвяткаваньне, просіцца падаць свае прозьвішча ў галоўную ўправу АБРФ прынамся тыдзень наперад, каб магчы ім забясьпечыць закватэраваньне ў Парыжы.

**Галоўная Управа АБРФ**

### ЗАСНАВАНЬНЕ АДДЗЕЛУ БІНіМ-у Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

4. 10 55 г. адбыўся ініцыятыўны сход беларускіх навукоўцаў, што пражываюць у Мюнхэне з мэтай залажэньня філіі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, цэнтраля якога знаходзіцца ў Нью Ёрку. Усімі прысутнымі на сходзе была падкрэсьлена патрэба заснаваньня аддзелу БІНіМ-у ў Нямеччыне ды абмеркаваны канкрэтныя захады й заданьні гэткага аддзелу. На старшыню аддзелу была запрапанавана кандыдатура д-ра Ст. Станкевіча, а на сяброў управы кандыдатуры сп. сп. С. Кабыша й А. Марговіча.

На сходзе ініцыятыўнае групы была заплянавана сэрыя канкрэтных мерапрыемстваў да зрэалізаваньня, у кірунку чаго й павядзецца праца ў недалёкай будучыні.

### ПОШУКІ

**Адамовіч Станіслаў** шукае брата **Язэпа** (народжаны ў 1922 г. у сяле **Аселец**, Грэскага р-ну на Случчыне) і сястру **Іванову Марыню з мужам Іванам** (народжаныя абое ў 1914 г. на Случчыне). За адшуканьне ўспомненых асобаў вызначаецца **ўзнагарода ў вышыні 100 даляраў за кажную асобу.** Весткі просіцца слаць на адрас:

Mr. S. Adamowicz, 2718 W. Cortez, Chicago 22, Ill, USA

—o—

**Гуркова Кацярына** шукае **Гуркова Івана** зь вёскі Лебедзеўка, Прапанскага р-ну. Весткі просіцца слаць на адрас:

K. Hurkowa, 3824 Clark St., Montreal, Q., Canada

—o—

**Олейнік Сава,** які быў лясьніком у Дуба ў 1939 г., шукае жонку **Васілісу,** дачок **Веру, Ніну й Вольгу** і сына **Анатоля,** якія былі эвакуаваныя Немцамі **зь Вялікіх Чучавіч** (Лунінецкі пав.) у 1944 г. У 1947 г. усе яны былі ў ангельскай зоне Нямеччыны ў Гановэры ў лягеры ўцекачоў. Весткі просіцца слаць на адрас:

Mr. Sawa Oleiynik, 211 16th Ave So. Minneapolis 4, Minn., USA.

### ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

Пры рассыланьні колькіх апошніх нумароў «Б-ны» адміністрацыяй газэты быў дапушчаны недагляд у адрасох, у сувязі з чым парушылася й рэгулярнасьць атрыманьня газэты некаторымі нашымі чытачамі. Выясьняючы тут прычыну перабою, ветліва перапрашаем нашых Паважаных Чытачоў, якіх гэта датычыць, ды асабліва Прадстаўнікоў газэты ды ейных Падпішчыкаў.

**Адміністрацыя «Б-ны»**

# Да ўвагі нашых падпішчыкаў і даўжнікоў

Асобы, якія атрымоўваюць нашу газэту непасрэдна зь Нямеччыны, грошы за яе павінны перасылаць Прадстаўніком «Бацькаўшчыны» ў краі свайго пражываньня.

**Адміністрацыя «Б-ны»**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**

НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka,** 19, Place Hoover, Louvain.
**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.
**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.
**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.